MICRO-SERIES

IDW

#6 • REG CVR

# TEENAGE MUTANT NINJA TURTLES

COSTA
EPSTEIN
HENDERSON
HERRING





ComicsBY.by прадстаўляе на беларускай мове:

# МІКРА-СЕРЫІ ПАДЛЕТКІ МУТАНТЫ НІНЗЯ ЧАРАПАШКІ

*злодзеі*

























ЛІЧУ, ШТО Я РАБІЎ ДРЭННЫЯ РЭЧЫ. АЛЕ Я НЯ ДРЭННЫ ЧАЛАВЕК. УНУТРЫ МЯНЕ ЖЫВУЦЬ ДЭМАНЫ, РАЗУМЕЕЦЕ?
КАРАЦЕЙ... МЯНЕ ЗАВУЦЬ АРНУЛЬД, І Я – АЛКАГОЛІК.

ПРЫВІТАННЕ, АРНОЛЬД!

КАЛІ ЎСПАМІНАЦЬ, УСЁ ПАЧАЛОСЯ Ў МАЁЙ МАЛАДОСЦІ. У ТЫЯ ЧАСЫ Я БЫЎ ЧАРТОЎСКІ БУЯНЫМ.

АЛЕ ПОТЫМ Я СУСТРЭЎ АДНУ ДЗЯЎЧЫНУ. АЖАНІЎСЯ. ЯНА МЯНЕ ВЫПРАВІЛА.

ЯНЫ ДРАСТУЦЬ, АБЯЦАЮ.

У НАС НАВАТ НАРАДЗІЎСЯ СЫН. УСЁ БЫЛО ДОБРА...

...АЛЕ НЕ ДОЎГА. ЖАНА ЗАХВАРЭЛА. ГЭТА СТАЛА ЎДАРАМ ДЛЯ МЯНЕ, І Я ПАЧАЎ ЯШЧЭ ЧАСЦЕЙ ПРЫКЛАДВАЦЦА ДА БУТЭЛЬКІ.

ДЛЯ НАС З СЫНАМ НАСТАЛІ НЯЛЁГКІЯ ЧАСЫ. УЗНІКЛІ... СУТЫКНЕННІ ПОЗІРКАЎ.

У МІНУЛЫМ МЕСЯЦЫ Я КРАНУЎСЯ ДНА. І Я ЗРАЗУМЕЎ, ШТО ПРЫЙШОЎ ЧАС УСЁ ЗМЯНІЦЬ.


МОЙ ХЛОПЧЫК ПАТРАПІЎ У ЛЯКАРНЮ. НЯ ВЕДАЮ, ДАКЛАДНА ЯК. АЛЕ ЁН БЫЎ У ЦЯЖКІМ СТАНОВІШЧЫ.


І ЯК Я ЗБІРАЎСЯ СТАЦЬ МАЦНЕЙ ДЗЕЛЯ ЯГО...


...КАЛІ НЕ МАГУ ДАПАМАГЦІ НАВАТ САМОМУ САБЕ?
Скара Брэй


ГЭЙ, АРНІ!


АНЁЛ СКАЗАЛА ПРА ТВАЙГО ХЛОПЦА. ЗАХОДЗЬ. ДАЗВОЛЬ НАЛІЦЬ ТАБЕ ВЫПІЦЬ.


НУ ШТО, ТЫ ДАВЕДАЎСЯ, ХТО ЯГО ПАРЭЗАЎ?
НЕ-А.
ЗАРАЗ ДА ДЗЯЦЕЙ НІЯКАЙ ПАВАГІ.
У МІНУЛЫЯ ЧАСЫ НІХТО Б ДА ЦЯБЕ ЦІ ТВАІХ ДЗЯЦЕЙ НЕ ДАКРАНУЎСЯ БЫ.


НІХТО Б НЯ СУНУЎСЯ ДА **ХАНА**.


ТА-АК...
ДАЎНО ЎСЁ ГЭТА БЫЛО.


САПРАЎДЫ. АР-НОЛЬД «АЦІЛА ХАН». МЫ БЫЛІ ТЫМІ ЯШЧЭ АДМАРОЗКАМІ. АЛЕ ЗАРАЗ МАЯ ДАЧКА ЎСЁ САПСУЕ.


О-О, САПРАЎДЫ?


РАЗУМЕЕШ... З АДНАГО БОКУ, Я ГАНАРУСЯ ЁЙ. БО ЯНА НАВАТ СВАЙГО ТАТУЛЮ АБСКАКАЛА.


АЛЕ ЎСЁ Ж ТАКІ... (ГЛЫЦЬ)
...ПУРПУРНЫЯ ЦМОКІ ЎЖО НЯ ТЫЯ, ШТО БЫЛІ РАНЕЙ.


ГЭТА СТРАШНА, РАЗУМЕЕШ?
ЖЫЦЬ У СУПЯРЭЧНАСЦІ.


ВЫБАЧАЙ, БРУКЛІН. НЕ ХОЧУ ПІЦЬ.


Я САБРАЎ УСЕ СІЛЫ, КАБ ЗВАЛІЦЬ АДТУЛЬ І НЕ НАПІЦЦА.
ЯК МЫ ЗАЎСЁДЫ ТУТ ГАВОРЫМ... ЗАЎЗЯТЫЯ СЯБРЫ МОГУЦЬ БЫЦЬ САМЫМІ НЕБЯСПЕЧНЫМІ ЛЮДЗЬМІ ДЛЯ СЯБРОЎСТВА.


АЛЕ І НОВЫХ СЯБРОЎ ТАК САМА ТРЭБА АСЦЕРАГАЦЦА.
ТЫ АБАВЯЗАНЫ ПАЙСЦІ ЗА МНОЙ.


ТЫ...
...АДЗІН З ТЫХ ВЫРАДКАЎ, ШТО ПАРЭЗАЛІ МАЙГО СЫНА!
ЦЯПЕР, ЯКІ Я СТАЎ ЦВЯРОЗЫМ, Я СТАЎ РАЗВАЖЛІВЫМ.


АЛЕ НЕКАТОРЫЯ ВЫРАДКІ ЎМЕЮЦЬ МАНІПУЛІРАВАЦЬ.
THOK
Я НЕ «РЭЗАЎ» ЯГО. АЛЕ ВОСЬ ТАБЕ НЕ ПАШАНЦУЕ, КАЛІ НЕ БУДЗЕШ МЯНЕ СЛУХАЦЦА.


І ХОЦЬ ЁН БЫЎ КАЗЛОМ, Я ВЫРАШЫЎ ВЫСЛУХАЦЬ ЯГО.
...ТРЫКЛЯТАЯ МЯРЗОТА...
УГАМАНІСЯ, СТАРЫК. НЕ БУДЗЕМ РАБІЦЬ ВЫГЛЯД, ШТО Ў ЦЯБЕ ЯШЧЭ ЁСЦЬ СІЛЫ ЗМАГАЦЦА.


І ЎСПАМІНАЦЬ, ШТО РАНЕЙ ТЫ БЫЎ КАЛІСЬЦІ ХАНАМ.

ХАН...

А?
ХТО ГЭТА?

ХТО ТЫ,
ЧОРТ БЫ ЦЯБЕ
ПАБРАЎ?

ТОЙ, ХТО ЗМЕНІЦЬ
ТВАЁ ЖЫЦЦЁ.







ЯК ТЫ ЗАБЯСПЕЧЫШ ЯМУ НАЛЕЖНАЕ ЛЯЧЭННЕ? НА ЯКІЯ СРОДКІ? А КАЛІ ЁН ВЫПРАВІЦЦА І ВЫЙДЗЕ, ШТО ТАДЫ? ЛЮДЗІ, ЛЕДЗЬ НЕ ЗАБІЎШЫЯ ЯГО, ЯШЧЭ НА ВОЛІ. ЦІ ЗМОЖАШ ТЫ АБАРАНІЦЬ ЯГО?

ЦІ ЗМОЖАШ ТЫ БЫЦЬ САПРАЎДНЫМ БАЦЬКАМ?







АЛЕ КАЛІСЬЦІ ТЫ ВЁЎ ТУЮ БАНДУ. ТРЫМАЎ У КУЛАКУ. Я ХАЧУ, КАБ ТЫ ПАЎТАРЫЎ ГЭТА. ВЯРНІ СВАЮ ГОДНАСЦЬ. СВОЙ ГОНАР. БУДЗЬ ПРЫКЛАДАМ ДЛЯ СЫНА.
СТАНЬ ЗНОЎ ХАНАМ.


Я НЕ... НЕ МАГУ...
Я ЎЖО НЕ ТОЙ ЧАЛАВЕК.
ТАК...


...АЛЕ МОГ БЫ ІМ СТАЦЬ.


ПАСПРАЧАЮСЯ ЗА ТОЕ, ШТО ГЭТА ЛАЙНО І ЗРАБІЛА З ЯГО ВОСЬ ГЭТА, ТАК? ПЕРАТВАРАЦЦА Ў ВЫРАДКАЎ, НАКШТАЛТ ЯГО І ЯГО СЯМЕЙКІ, Я НЕ ЗГОДНЫ.


ЯНЫ МНЕ НЕ СЯМ'Я.


ЯГО ЯНО ЗРАБІЛА НАЙВЫДАТНЫМ. А ЦЯБЕ... ПРОСТА ЗРОБІЦЬ ЛЕПЕЙ.


УЯВІ: ЗНОЎ БЫЦЬ У РОСКВІЦЕ СІЛ. ТВАЁ ЦЕЛА СТАНЕ ХУТКІМ, МОЦНЫМ. РОЗУМ СТАНЕ ВОСТРЫМ І ПРАЗРЫСТЫМ. ЯК РАНЕЙ. ЛЕПШ, ЧЫМ РАНЕЙ.


...
І Ў ЧЫМ ПАСТКА? ЧЫМ Я ПАВІНЕН БУДУ ЗАПЛАЦІЦЬ ЗА ГЭТА?


НІЧЫМ З ТАГО, АБ ЧЫМ ТЫ НЕ СУМАВАЎ. ПРЫВЯДЗІ СЯМ'Ю Ў ПАРАДАК. ВЯРНІ ЎЛАДУ НАД ЦМОКАМІ. ЗНОЎ ЗРАБІ З ІХ ПАГРОЗУ.


І НЕ ЗАБЫВАЙ, КАМУ ТЫ СЛУЖЫШ.


ТАК. ГЭТА МНЕ ПА СІЛАХ.
КАЛІ ТЫ БЯРЭШ НА СЯБЕ АДКАЗНАСЦЬ ЗА СВАЕ ДЗЕЯННІ І ПАДПАРАДКОЎВАЕШСЯ ВЫШЭЙШАЙ СІЛЕ, ГЭТА СІЛА ЦЯБЕ ЎЗНАГАРОДЖВАЕ.
ВОСЬ ТАК Я І АТРЫМАЎ ПРАЦУ!










І ВОСЬ, ЁН НАДЫШОЎ. МОЙ ПЕРШЫ ДЗЕНЬ НА СЛУЖБЕ. ЯК ВЕДАЦЬ, ЦІ НЕ СТРАЦІЎ Я НАВЫК?


РУКІ СТАЛІ ХАЛОДНЫМІ...
САМЫ ЧАС ЗРАБІЦЬ НАШ КРОК, АНЁЛ. САВАТЫ НАВАТ НЕ ЧАКАЮЦЬ ГЭТАГА!


НЕ. МЫ НЕ ЎВЯЗВАЕМСЯ Ў БАНДЫЦКІЯ ВОЙНЫ. ЦМОКІ ГЭТЫМ ЎЖО НЕ ЗАЙМАЮЦЦА.
ЛОБ ЗМАКРЭЎ...


ДАВАЙЦЕ ВЫРАШАЦЬ, ХТО ЗА І ХТО СУПРАЦЬ.


ТУТ Я ГАЛОЎНАЯ, ТАК ШТО НІЯКІХ ЗА І СУПРАЦЬ.
THWAP


ЗГОДНЫ. У ПУРПУРНЫХ ЦМОКАЎ НЯМА ГАЛАСАВАННЯЎ.
ШТО ЯШЧЭ ЗА...?
АЛЕ СА СЛОВАМІ ПРА ТОЕ, ШТО ТЫ – «ГАЛОЎНАЯ»...

МОЙ ПЕРШЫ ДЗЕНЬ ЗНОЎ ЗА РАБОТАЙ. ТРЭБА БЫЛО СТВАРЫЦЬ УРАЖАННЕ ХЛОПЦА, ЯКІ ВЕДАЕ, ШТО РАБІЦЬ.

...ГАТОВЫ ПАСПРАЧАЦЦА.


АБРАБАВАЎ МАГАЗІН СТЭРОІДАЎ, АРНОЛЬД?
ДОБРА, ПРЫКІНУСЯ ДУРНЕНЬКАЙ: КАЛІ НЕ Я БОС, ТАДЫ ХТО?


У МЯНЕ ЁСЦЬ НА КОНТ ГЭТАГА МЕРКАВАННЕ.
БО Я МАГУ ПРЫГОЖА ГАВАРЫЦЬ...


А ЯК ЖА.
ХЛОПЧЫКІ, Я ЛІЧУ, НАШ ПРЫЯЦЕЛЬ ЗВАЛІЎСЯ З ЛОЖКА І РАПТАМ ВЫРАШЫЎ, ШТО ЖЫВЕ 25 ГАДОЎ НАЗАД.
ВЫШТУРХНІЦЕ ЯГО АДСЮЛЬ.


А ВОСЬ ПАЦВЯРДЗІЦЬ СЛОВЫ СПРАВАЙ?
ШТО Ж, СКАЖУ Я ВАМ, РАБЯТЫ...


...АКАЗАЛАСЯ, ШТО
ЯШЧЭ ЯК МАГУ!

ЦЯПЕР.

МЫ ПРАЗ ШМАТ ЧАГО ПРАЙШЛІ РАЗАМ З ТВАІМ БАЦЬКАМ, А ТЫ – СЯБРОЎКА КЕЙСІ. І ЛЕПШ, КАБ ЯНЫ НЕ ДАВЕДАЛІСЯ ПРА ГЭТА... «НЕПАРАЗУМЕННЕ».

ЦІ Я – БОС, ЦІ ТЫ ЗАСТАНЕШСЯ БЕЗ БАШКІ, УЦЯМІЛА?







...ВЫ ЎЖО ЗРАЗУМЕЛІ, ХТО ВАШ ЛІДАР?




ТАК ЗДАРЫЛАСЯ, ШТО ГЭТА ПРАЦА ДАЗВОЛІЛА НАЛАДЗІЦЬ КАНТАКТЫ З БЫЛЫМІ КАЛЕГАМІ.







*МАЕЦЦА НА ЎВАЗЕ ВОСЬМЫ ЭТАП З ПРАГРАМЫ «12 КРОКАЎ», ПРЫНЯТАЙ У ТАВАРЫСТВЕ АНАНІМНЫХ АЛКАГОЛІКАЎ.

ГЭТА НАТХНІЛА МЯНЕ НА СУСТРЭЧУ З СЫНАМ...
ЯК АДЧУ-ВАЕШ СЯБЕ, КЕЙС?
...УЖО І НЕ ПАДЛІЧЫЦЬ, У ЯКОЙ КОЛЬКАСЦІ ПАЛАТ МЫ ЎЖО ПАБЫВАЛІ, ТАК?
...ТАК. ПАБЫВАЛІ.
ГЭЙ, СЛУХАЙ. ХАЧУ, КАБ ТЫ ВЕДАЎ...
Я ЗАВЯЗАЎ З БУХЛОМ І ЎЛАДКАВАЎСЯ НА ПРАЦУ.

Я ПАХАДЗІЎ У СПАРТЫЎНЫ ЗАЛ. ЁСЦЬ ЯШЧЭ СІЛЫ, ЯК ЛІЧЫШ?

ЗМЯНІЎ БУХЛО НА СТЭРОІДЫ, ТАК?

РАЗУМЕЮ, ШТО, Э, РОЗНАЕ МІЖ НАМІ БЫЛО.

АЛЕ ЦЯПЕР Я ХАЧУ ПАКЛАПАЦІЦЦА ПРА ЦЯБЕ. СТАЦЬ МОЦНЫМ. ЛІЧУ, МАЦІ Б УЗРАДАВАЛАСЯ ГЭТАМУ.









МЫ З СЫНАМ ІДЗЕМ РОЗНЫМІ ШЛЯХАМІ. АЛЕ ДУМАЮ, ДОЙДЗЕМ, КУДЫ ТРЭБА.


ЛЯКАРНЯ
НЕ СКАЖУ, ШТО НЕ ПАДУМВАЎ НАПІЦЦА ЗАРАЗ І ТАДЫ...


АЛЕ Я ПАЧЫНАЎ ДУМАЦЬ ПРА СВАЮ СПРАВУ, ПРА ТОЕ, ЯКІ Я Ў ЁЙ МАЙСТАР. І, ЗВЫШ ТАГО, ШТО АБАЖАЮ ЯЕ.


А ЯШЧЭ ПРА СЫНА. ПРА ТОЕ, КАБ БЫЦЬ ДОБРЫМ БАЦЬКАМ. І ТАДЫ Я КАЖУ САБЕ: «ЧОРТ...


...ЛЕПШ УЖО ГЛЫТНУ-КА Я ГАЗІРОЎКІ».


І ВОСЬ МОЙ ЖЭТОН ЗА МЕСЯЦ. Я ГАНАРУСЯ, ШТО АТРЫМАЎ ЯГО.


CLAP CLAP CLAP
ТО ЛІ ЯШЧЭ БУДЗЕ.
КАНЕЦ.